# НАВІНЫ



*Акадэміі навук Беларусі*

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* ● *№ 9(738)* ● *11 сакавіка 1994 г.* ● *Цана 25 руб.*


*ПАМЯЦЬ*

## КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ СВЯТОЕ ШТОСЬЦІ...



*Віцэ-прэзідэнт, акадэмік Акадэміі навук Беларусі. А яшчэ — добры чалавек, цікавы суразмоўца, шчыры, як мы гаворым, беларус,— прэзідэнт згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Усе гэтыя словы — пра вядомага на нашай Беларусі чалавека — **Радзіма Гаўрылавіча ГАРЭЦКАГА.** З ім гутарыць журналіст **Віктар ФІЛІПЧЫК.***

**— Сталі крылатымі словы, што ўсё пачынаецца з маленства. А пра што марылі ў дзяцінстве вы, Радзім Гаўрылавіч?**

— Я нарадзіўся ў Мінску ў 1928 годзе, але трохгадовым дзіцем быў вывезены адсюль. Бацьку, Гаўрылу Іванавіча, выслалі з Беларусі адразу на Салаўкі, а затым на будаўніцтва Беламора-Балтыйскага канала. Яго і ягонага роднага брата, вядомага літаратара Максіма Гарэцкага, забралі як нацдэмаў.

**— А вы памятаеце свайго дзядзьку?**

— З Максімам Гарэцкім я не сустракаўся пры жыцці, хаця, можа, ён і бачыў мяне маленькага. Мой жа бацька памёр у 1988 годзе, а маці — жывая, ёй ідзе 92-гі год. Яна — беларуска, нарадзілася ў Беластоку. Як і бацька, скончыла Ціміразеўскую (Пятроўскую) сельскагаспадарчую акадэмію, была селекцыянерам. Ну, а калі здарылася бяда і іх выслалі ўжо на будаўніцтва Беломорканала ў Карэлію, маці працавала настаўніцай, а потым інжынерам-грунтазнаўцам, а бацька стаў геолагам, хаця спачатку быў эканамістам. Проста там, у Мядзведжай Гары, былі патрэбны менавіта такія спецыялісты. З самага дзяцінства я ведаў бацьку як сталага геолага і марыў толькі пра такую ж прафесію. Ва ўсялякім разе тое, што буду геолагам, цвёрда вырашыў дзесьці ў 7—8 класе.

**— А ці верылі, што вернецеся дамоў, у родны край?**

— Калі быў зусім маленькім, я пра гэта не вельмі думаў, хоць бацькі ўвесь час марылі жыць на Беларусі. Менавіта іх любоў да Радзімы, да сваіх каранёў, іх прыклад падтрымлівалі адчуванне, што я вярнуся сюды. У якасці каго, не ўяўляў. І так склалася жыццё, што спачатку яны вярнуліся, а пасля ўжо і я.

Але ж «пабадзяўся» я па свеце каля 40 гадоў, і, паўтаруся, удзячны бацькам за тое, што некалі, як старанныя садоўнікі, прывілі мне любоў да роднай зямлі.

**— Лёс Максіма Гарэцкага, як вядома, склаўся трагічна...**

— Яго забралі ў 1930 годзе і да 60-х гадоў нельга было называць нават імя яго. Уяўляеце... Я і сам не ўсе яго творы мог прачытаць. Зараз жа зусім іншая сітуацыя. Як вядома, стагоддзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага ў свой афіцыйны мінулагодні каляндар уключыла такая салідная арганізацыя, як ЮНЕСКА.

Пісьменнік, як з небыцця, вярнуўся да свайго народа. Выйшаў шасцітомнік яго твораў і пісьмаў, а таксама напісаная ім «Гісторыя беларускай літаратуры». У тым, што спадчына Максіма Гарэцкага нарэшце дайшла да чытачоў, найпершая заслуга яго жонкі, вядомай дзіцячай пісьменніцы Леанілы Усцінаўны Чарняўскай і дачкі, Галіны Максімаўны. Згадзіцеся, што пры такіх вялікіх пераездах захаваць усё было надзвычай цяжка. Можна толькі здагадвацца, што было спалена перад вобыскамі, а што знішчана і пасля іх. Вядома, што Максім Гарэцкі сябраваў з Янкам Купалам, Якубам Коласам, акадэмікамі Яўхімам Карскім, Уладзімірам Пічэтам, а вось перапіска між імі амаль не захавалася. А што зрабіў я па ўвекавечанню імя свайго дзядзькі? Калі пачаў цікавіцца яго асабістай справай у КДБ, то высветліў наступны факт. Раней ва ўсіх энцыклапедыях і даведніках былі змешчаны афіцыйныя дадзеныя, што Максім Гарэцкі памёр 20 сакавіка 1939 года ў Комі АССР ад запалення лёгкіх. Аказалася, што ўсё гэта звычайная хлусня. На самой справе яго восенню 1937 года забралі, а ўжо 10 лютага 1938 года расстралялі. І было гэта хутчэй за ўсё ў Вязьме. Зараз мы ведаем, што не там ён пахаваны і не столькі жыў. Да свайго 45-годдзя дзядзька Максім не дажыў 8 дзён.

**— Радзім Гаўрылавіч, лёс вашых родных быў трагічным, жахлівым, але вашы вочы захавалі беларускую добразычлівасць, цеплыню.**

— Ведаеце, я заўсёды дзівіўся на маіх бацькоў перш-наперш і на дзядзьку Максіма, канешне. Дасталося ім зашмат. Гэта сапраўдныя пакутнікі. Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці, складанасці, вар'яцтвы таго часу, яны захавалі цудоўныя адносіны да людзей, сацыяльны аптымізм, калі хочаце. У іх не ўзнікла ніякага азлаблення. Яны былі вельмі добрымі, шчырымі, адкрытымі. І, я думаю, засталіся такімі таму, што былі людзьмі сваёй Айчыны. Іх сагравала любоў да яе, неадрыўнасць ад родных каранёў іх захавала. Дзядзька Максім спраўдзіў свае ж словы: «...ахвярую сваім «я» ва імя святога ўсім нам адраджэння».

Мара пра Бацькаўшчыну, адданасць ёй — гэта галоўнае, што мае блізкія пранеслі праз жыццё. Яны ўсе і мне неяк прывілі такія пачуцці.

**— Мяркую, менавіта гэтымі пачуццямі кіраваліся вы, адзін з арганізатараў згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», калі наладжвалі першы з'езд беларусаў свету. Але з'езд прайшоў, слоў сказана нямала, а дзе ж справы?**

— Вы маеце рацыю. Але нядаўна мы збіраліся сваёй радай і склалі даволі падрабязную і дэталёвую праграму. Зараз перш-наперш трэба прывесці ў парадак нашы суполкі як у блізкім і далёкім замежжы, так і на самой Беларусі. У нас цяпер вельмі добры старшыня рады — Ганна Сурмач. Яна, жанчына вельмі энергічная, зараз цалкам перайшла на гэту працу. А справы? Атрымалі памяшканне на вуліцы Рэвалюцыйнай, у будынку, дзе некалі быў Інбелкульт. Спадзяёмся, што зробім там сапраўдную беларускую хату, куды з любога кутка зямлі мог бы прыехаць беларус, адпачыць душой, атрымаць цікавую для сябе інфармацыю і г. д. Збіраемся мець сваю прэсу, мяркуем правесці з'езд беларусаў Расіі. Планы — самыя канкрэтныя, і яны выконваюцца.

**— Наша гутарка пачалася са слоў, што ўсе мы родам з дзяцінства. Давайце працягнем гэту тэму, бо дзеці — наша будучыня.**

— Так, мы абавязкова павінны клапаціцца пра нашых нашчадкаў. Трэба, каб да нас прыязджалі дзеці з-за мяжы, а мы накіроўвалі сваіх туды. Таксама, каб абмен літаратурай быў больш шырокім, а беларускія школы і садкі былі і на Беласточчыне, і ў Расіі, дзе шмат беларусаў, каб больш лёгкімі і празрыстымі былі межы для нашых суайчыннікаў. Адным словам, мы не забываем нашых дзетак, бо яны, выхаванне іх у любові да Бацькаўшчыны — гэта галоўнае! Што ж тут кепскага, калі маленькія беларусы будуць ведаць і берагчы нацыянальныя традыцыі? Я думаю, тады і Бацькаўшчына наша будзе мацнець, і адраджэнне атрымае новы моц, і Беларусь стане больш магутнай, вольнай... У мяне ёсць дарэчы, канкрэтная прапанова і да вас. У канцы мінулага года я быў у вёсцы Таргуны Докшыцкага раёна на радзіме жонкі Максіма Гарэцкага — Леанілы Усцінаўны Чарняўскай. Там, у мясцовым Доме культуры, у школе праходзілі святкаванні з нагоды 100-годдзя дзіцячай беларускай пісьменніцы, аўтара чытанкі «Родны край» і іншых кніг. Вечарына праводзілася на беларускай мове, і што асабліва прываблівае — на ёй свабодна размаўлялі дзеці. Дык вось, там была выказана цікавая прапанова: раз у адзін ці два гады праводзіць агульнадзяржаўнае свята дзіцячай кніжкі. Старыя Докшыцы, дзе адна з вуліц райцэнтра і школа носяць імя дзіцячай пісьменніцы Л. Чарняўскай, гатовы шчыра адчыніць дзверы для маленькіх і дарослых гасцей. Ініцыятарам патрэбна падтрымка як маральная, так і матэрыяльная. Магла б у гэтым дапамагчы і ваша газета. Згодны?

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## У акадэміі — папаўненне!

***Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі паведамляе, што 25 лютага 1994 г. Агульным сходам Акадэміі навук Беларусі, згодна з яе Статутам, былі выбраны акадэмікамі і членамі-карэспандэнтамі АН Беларусі наступныя вучоныя:***

**акадэмікамі АН Беларусі**

**БАБОСАЎ** Яўген Міхайлавіч
**БАМБАЛАЎ** Мікалай Мікалаевіч
**ВАЛАТОЎСКІ** Ігар Дзмітрыевіч
**ВІЦЯЗЬ** Пётр Аляксандравіч
**ГУРЫН** Валерый Мікалаевіч
**ГУРЫНОВІЧ** Георгій Паўлавіч (памёр 27 лютага 1994 г.)
**ІЗОБАЎ** Мікалай Аляксеевіч
**КАВАЛЕНКА** Віктар Антонавіч
**КАЛАВАНДЗІН** Барыс Андрэевіч
**КАПУЦКІ** Фёдар Мікалаевіч
**КОНЕЎ** Сяргей Васільевіч
**МАЦВЕЕЎ** Аляксей Васільевіч
**ПАДЛУЖНЫ** Аляксандр Іосіфавіч
**СТРАЛЬЧОНАК** Алег Анатольевіч
**ЧАРНЯЎСКІ** Аляксандр Фёдаравіч
**ШАМЯКІН** Іван Пятровіч

**членамі-карэспандэнтамі АН Беларусі**

**АЛЯШКЕВІЧ** Фёдар Васільевіч
**БОГУШ** Андрэй Аляксандравіч
**БУЛЫКА** Аляксандр Мікалаевіч
**ГНІЛАМЕДАЎ** Уладзімір Васільевіч
**ГУРСКІ** Леанід Ільіч
**ІПАЦЬЕЎ** Віктар Аляксандравіч
**КАРПЕНКА** Генадзь Дзмітрыевіч
**КРУЦЬКО** Мікалай Паўлавіч
**КУХАРЧЫК** Пётр Дзмітрыевіч
**ЛАХВІЧ** Фёдар Адамавіч
**ЛЕСНІКОВІЧ** Анатоль Іванавіч
**ЛОГІНАЎ** Уладзімір Фёдаравіч
**МАНЬШЫН** Геральд Рыгоравіч
**МАХНАЧ** Анатоль Аляксандравіч

**НІКІЦЕНКА** Пётр Рыгоравіч
**ПАЎЛЮКЕВІЧ** Мікалай Уладзіміравіч
**ПІКУЛІК** Міхаіл Міхайлавіч
**ПІЛІПЕНКА** Міхаіл Фёдаравіч
**САЛАЎЕЎ** Канстанцін Мікалаевіч

**ТАНАЕЎ** Вячаслаў Сяргеевіч
**ТАЧЫЦКІ** Эдуард Іванавіч
**ЦІХІНЯ** Валерый Гур'евіч
**ЯКУШАЎ** Барыс Іванавіч

## Да эканомікі свабоднага грамадства

**У пачатку сакавіка ў Мінску адбылася трохдзённая Міжнародная канферэнцыя «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве: ліберальны выбар», арганізаваная Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў; Аб'яднанай дэмакратычнай партыяй Беларусі, фондам «Адкрытае грамадства» і Саюзам лібералаў «Маладая Беларусь» пры падтрымцы Фонду Сораса-Беларусь і Міжнароднага цэнтра садзеяння прыватнаму прадпрымальніцтву (ЗША). У канферэнцыі, апрача прадстаўнікоў краіны-арганізатара, прынялі ўдзел таксама эканамісты, дзелавыя людзі, дзяржаўныя, грамадскія і палітычныя дзеячы з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, ЗША, Эстоніі, Латвіі і іншых краін.**

**Пошук ліберальных рашэнняў эканамічных і сацыяльных праблем, аб'яўлены як мэта канферэнцыі, вёўся па наступных накірунках: тэарэтычныя аспекты эканамічнага лібералізму, праблемы прыватызацыі, фарміраванне новых суб'ектаў эканомікі, фінансавыя рэформы, роля дзяржавы ў працэсе рэформаў, палітычнае і прававое забеспячэнне эканамічных і палітычных рэформаў, супрацоўніцтва краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў правядзенні дэмакратычных пераўтварэнняў.**

(Ад уласн. карэсп.)

ЭЛІСАН ПРАЙС:

# «У НАС НЕ ЗНОЙДЗЕШ ДЗВЮХ ПАДОБНЫХ ШКОЛ»

**Наш карэспандэнт сустрэўся з каардынатарам праграм адукацыйнага цэнтра пры Фондзе Сораса Элісан ПРАЙС і задаў ёй некалькі пытанняў адносна цэнтра і пастаноўкі адукацыі ў ЗША.**

**— Якія мэты амерыканскага адукацыйнага цэнтра ў Мінску?**

— У нас ёсць некалькі праграм навучання для беларускіх студэнтаў, якія жадаюць павучыцца ў ЗША. Кошт утрымання аднаго студэнта ў Амерыцы немалы — ад 9 да 22 тысяч долараў у год. А яшчэ расходы на жыллё, на харчаванне. І вось мы, пры падтрымцы Амерыканскага савета па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі і вывучэння моў (АКСЕЛС), даём магчымасць некалькім маладым людзям на працягу года пабыць студэнтамі амерыканскіх універсітэтаў. Дарэчы, АКСЕЛС прапанаваў больш маштабную праграму абмена навучэнцамі «Тысяча на тысячу».

Цэнтр удзельнічае і ў праграме, ініцыіраванай сенатарам Эдмундам Маскі. Яна разлічана на аспірантаў, якія хочуць вучыцца на факультэтах бізнесу, заканадаўства і адміністрацыйнага кіравання. Прэтэндэнты павінны мець дыплом ВНУ, стаж працы. Верхняя мяжа ўзросту — 40 гадоў. У канцы двухгадовага курсу навучання выдаюцца дыпломы магістраў.

У беларускіх студэнтаў ёсць таксама магчымасці паступіць у гуманітарныя універсітэты ў Празе і ў Будапешце, у Амерыканскі універсітэт у Благоеўградзе.

У нас ёсць яшчэ стыпендыяльны фонд, які дазваляе накіраваць некалькі студэнтаў на навучанне ў Кембрыджскі універсітэт (Англія), на тэрмін у адзін вучэбны год.

**— Цікава, а колькі шчаслiўцаў з Беларусі ўжо скарысталася вашай дапамогай?**

— З 1993 года па праграме Э. Маскі паехалі вучыцца 9 аспірантаў (2 — па грамадскім кіраванні, 3 — па праву, 2 — па бізнесу, 2 — па эканоміцы), па праграме «Фрыдам Сапэрт Акт» — 7 студэнтаў (2 — па бізнесу, 2 — па кіраванні ў адукацыі, 1 — па праву, 1 — па грамадскім кіраванні, 1 — па эканоміцы), а таксама 4 студэнты па праграме абмену «Тысяча на тысячу».

**— Як я даведаўся з літаратуры, выстаўленай у Адукацыйным цэнтры, агульнанацыянальнай сістэмы адукацыі ў нашым разуменні ў ЗША, па сутнасці, няма. Бо кожны штат арганізуе навучанне па сваіх магчымасцях і меркаваннях. Ці можна ўсё-такі гаварыць аб нейкіх агульных прынцыпах амерыканскай адукацыі?**

— Вы правільна сказалі: у нас у выбары праграм навучання, падручнікаў, вучэбных дысцыплін болей значыць думка адміністрацыі штата і грамадскага савета школы, чым распараджэнні з Вашынгтона. Аднак федэральнае міністэрства адукацыі існуе. Але агульная аснова хіба больш залежыць ад Асацыяцыі каледжаў. Сама прыналежнасць універсітэта ці каледжа да Асацыяцыі ўжо прадвызначае высокі стандарт падрыхтоўкі яго студэнтаў і бакалаўраў.

**— Можа ўсё-такі ёсць такое слова, якое б ахарактарызавала амерыканскую адукацыю? Калі так, дык якое?**

— Я б сказала: «разнастайнасць». У нас не знойдзеш дзвюх падобных школ.

**— Дзве Нобелеўскія прэміі з кожных пяці прысуджаных — гэта яскравае сведчанне прагрэсіўнасці амерыканскіх прынцыпаў педагогікі. На ваш погляд, што з яе варта пераняць Беларусі?**

— Вышэйшая адукацыя — гэта наша галоўная вытворчасць, і працуе яна вельмі эфектыўна. Што ж тычыцца пачатковай і сярэдняй школы, то яны ў многім патрабуюць удасканалення. Як і ў вас, дарэчы. А наконт павучыцца... Чым моцныя нашы педагагічныя ўстановы? Тым, што кожны, хто вучыцца, можа задавальняць сваю цікавасць. Знайшоў нешта яшчэ больш цікавае — калі ласка, няма праблем перайсці ў іншы клас, іншы каледж.

Я, напрыклад, тры разы мяняла сваю спецыяльнасць, калі вучылася ў каледжы і ў аспірантуры. І гэта ў нас лічыцца зусім нармальным.

Гутарку вёў
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

# 1-я прафсаюзная

**Гэтымі днямі адбылася 1-я канферэнцыя прафсаюза работнікаў АН Беларусі. На парадак дня канферэнцыі былі ўнесены пытанні: 1) аб дзейнасці РК прафсаюза работнікаў АНБ з сакавіка 1991 г. да гэтых дзён; 2) аб сацыяльна-эканамічным становішчы работнікаў АНБ.**

**З дакладам па другому пытанню выступіў старшыня Рэспубліканскага камітэта прафсаюза А. У. Матусевіч. У спрэчках па дакладу прынялі ўдзел старшыні камісій РК прафсаюза А. А. Сянько, А. І. Мікуліч, А. М. Макеева, А. В. Балтушкін, А. А. Ракіцкі, старшыні прафкамаў інстытутаў тэхнічнай кібернетыкі — В. В. Кузняцоў, малекулярнай і атамнай фізікі — І. І. Кулак, электронікі — Б. М. Цюшкевіч, фізікі — Ю. А. Курачкін, праблем энергетыкі — З. С. Пархомава і іншыя.**

**На канферэнцыі таксама выступілі і адказалі на пытанні галоўны вучоны сакратар АНБ акадэмік А. М. Ганчарэнка, намеснік прэзідэнта — кіраўнік спраў В. В. Максіменка.**

**У прынятай пастанове «Аб сацыяльна-эканамічным становішчы работнікаў АН Беларусі» канферэнцыя вызначыла лічыць незадавальняючым сацыяльна-эканамічнае становішча работнікаў АНБ, бо яно не адпавядае ролі і значэнню фундаментальнай навукі ў жыцці рэспублікі. Канферэнцыя канстатавала рэзкае зніжэнне ўзроўню сацыяльнай абароненасці работнікаў, якое выказваецца ў нізкай заработнай плаце і незабяспечанасці іх дастойнымі ўмовамі працы і быту.**

**Удзельнікі канферэнцыі палічылі недастатковай актыўнасць кіраўніцтва акадэміі ў абароне правоў і інтарэсаў супрацоўнікаў.**

**Канферэнцыя выказала просьбу да Агульнага сходу АНБ разгледзець пытанне аб сацыяльна-эканамічным становішчы работнікаў АНБ у цяперашніх умовах, утварыць спецыяльную камісію для падрыхтоўкі да чэрвеня гэтага года праграмы выхаду АНБ з крызіснага стану, якая ўключала б у сябе ўсе састаўныя працы і быту яе супрацоўнікаў. Прэзідыуму акадэміі даручана дабіцца разгляду пытання аб неадкладных мерах па забеспячэнню дзейнасці АНБ на ўзроўні Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі.**

**У пастанове намечаны і некаторыя іншыя шляхі вырашэння складаных сацыяльных і эканамічных праблем работнікаў АНБ.**

# А задачы ў іх розныя

Існуе пытанне, над якім ужо доўгі час спрачаюцца вучоныя і практыкі: наколькі адзіная навука, і ці можа яна быць ахоплена адным і тым жа законам? Да некаторых часоў лічылася, што такое адзінства існуе і праяўляецца ў агульных заканамернасцях і правілах, якія распаўсюджваюцца на ўсё, што мы называем навукай. Аднак жыццё пераконвае, што аднароднасць гэтая ў пэўнай ступені ўмоўная, і што спроба падыходзіць да розных з'яў аднолькава параджае немалыя супярэчнасці...

Водападзел паміж фундаментальнай і прыкладной навукамі лепш за ўсё ілюструецца адрозненнем паміж адкрыццём і вынаходкай. Калі першае робіць для нас відавочным тое, што існавала заўсёды, але не было пазнаным, то другое дае ў нашы рукі тое, чаго раней не існавала (напрыклад, тэлебачанне і радыё). Адсюль выцякае наступнае вызначэнне. Вытворчасць ведаў з дапамогай спецыяльных даследаванняў называюць фундаментальнай навукай, а вытворчасць рашэнняў — прыкладной.

Размяжоўваць іх у прававых адносінах трэба дзеля таго, каб пазбегнуць дзвюх крайнасцей. Атаясамліванне ўсёй навуковай дзейнасці з вытворчасцю ведаў прыводзіць да таго, што парадкі, якія існуюць для фундаментальных даследаванняў, спрабуюць распаўсюдзіць на ўсю навуку ўвогуле. Не менш небяспечна іншая крайнасць — ігнараванне прыроды пазнавальнай дзейнасці, навязванне ёй патрабаванняў, якія правамерны для прыкладной навукі: практычная аддача, эканамічная эфектыўнасць і г. д. Фундаментальную навуку нельга дакладна планаваць, у ёй немагчыма ўстанаўліваць тэрміны адкрыццяў.

Стварэнне тэарэтычных ведаў магчыма толькі тады, калі фундаментальная навука свабодна ў сваіх пошуках, калі навукоўцы маюць права на ініцыятыву і на яе падтрымку з боку дзяржавы. Знаходжанне ж тэхнічнага рашэння — працэс, задаваемы прадпрымальнікам альбо дзяржавай. Менавіта задаваемасць абмяжоўвае свабоду распрацоўшчыка: ён мае свабоду выбару метадаў рашэння пастаўленай задачы.

Істотная розніца паміж фундаментальнымі і прыкладнымі даследаваннямі праяўляецца ў эканамічнай сферы. Фундаментальным у найбольшай ступені характэрна навуковая нявызначанасць, г. зн. адсутнасць прамой сувязі паміж затратамі і вынікамі, таму іх фінансаванне не павінна прывязвацца да выніку. Прыкладным жа даследаванням у поўнай ступені адпавядае кантракт, у якім агавораны вынік служыць прадметам аплаты.

Самі па сабе фундаментальныя веды не могуць быць полем камерцыйнага разліку, паколькі веды як прадукт грамадскага прызначэння не валодаюць коштам і не з'яўляюцца таварам. У супрацьлегласць гэтаму прадукты прыкладных работ з'яўляюцца таварам, яны могуць быць крыніцай дадатковага прыбытку. Узвядзенне прыкладной навукі ў ранг навукі фундаментальнай дазваляе дзеячам тэхнікі знаходзіцца па-за кантролем эканомікі, набываць небяспечную аўтаномнасць.

Па розных шляхах ідзе арганізацыйнае развіццё абедзвюх навук. Фундаментальная навука ў асноўным канцэнтруецца ў бесприбытковым сектары, куды ўключаюцца (хоць і не цалкам) акадэмічная і вузаўская навукі. Значная ж частка прыкладной навукі размешчана ў камерцыйных структурах, дзе прадуцыруюцца тэхнічныя вынікі як тавар...

Не бяруся сцвярджаць, што два накірункі навукі падзелены паміж сабою глухой сцяною: часам дасягненні фундаментальнай навукі адразу пераходзяць у навуку прыкладную і, наадварот, рашэнне складаных тэхнічных задач патрабуе атрымання новых ведаў. Аднак, нягледзячы на гэта, задачы, якія вырашаюць фундаментальныя і прыкладныя навукі, істотна розныя.

Уладзімір КАМАРОЎ,
акадэмік.

# І ПЕРШ ЗА ЎСЁ — НАВУКА

**Ніколі не меркаваў, што фізіялогія — навука для разумення цяжэйшая, чым, скажам, фізіка або матэматыка. Прынамсі, для майго разумення. Пакуль прафесар Калюноў у нашай з ім гутарцы вытлумачваў сутнасць сучаснай тэорыі структурна-функцыянальнай арганізацыі вегетатыўнай нервовай сістэмы, я значна хутчэй зразумеў, чаму менавіта навука зрабілася сэнсам жыцця выпускніка медыцынскага інстытута, а затым хірурга-практыка ў лячэбных установах абласнога і рэспубліканскага значэння ў Маладзечне і Мінску.**

**Гэта стала зразумела па таму эмацыянальнаму напалу, якім было афарбавана вытлумачэнне ім складаных паняццяў і катэгорый, прытым зусім не з галіны паэзіі. На такое, пагадзіцеся, здольны толькі захоплены чалавек. А энтузіяста па-сапраўднаму цікава і слухаць. Таму, калі сённяшнія яго калегі сцвярджаюць, што ў бытнасць Уладзіміра Мікалаевіча Калюнова загадчыкам кафедры Беларускага універсітэта павысіўся метадычны і тэарэтычны ўзровень студэнцкіх работ, гэтаму ахвотна верыш. Ён жа чытаў студэнтам курс сваіх лекцый! Ён здолеў і аўдыторыю зрабіць энтузіястамі. Яны не проста адбывалі час, яны аддаваліся вучобе. Ім было цікава.**

**— Спаў тады па 3—4 гадзіны,— прыгадвае вучоны.— Здабываў сродкі, «прабіваў» абсталяванне, прымаў залікі, вёў лабараторныя работы. І пры тым не пакідаў навуку...**

**Але гэта ўжо было пасля. Да гэтага ж ён дзень за днём вёў даследаванні, пісаў і абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі.**

**Не скажу, што нічога з расказанага Уладзімірам Мікалаевічам да мяне не дайшло. Наадварот, яму ўдалося прымусіць мяне сёе-тое зразумець. Але ўжо праз гадзіну я не мог бы талкова пераказаць усё, пра што даведаўся ад яго.**

**Напэўна, не такога ўжо адпетага тупіцу сустрэў ён у маёй асобе. Справа, думаю, у іншым— складанасці навукі, якая завецца фізіялогіяй. І, у прыватнасці, таго яе раздзелу, што стаў прадметам пільнай увагі самога Уладзіміра Мікалаевіча. Не ўдаючыся ў падрабязнасці навуковых даследаванняў, што былі цяжкімі, карпатлівымі, шматгадовымі і тычыліся функцый сімпатычных гангліяў, гэта значыць, нервовых вузлоў, праз якія адбываюцца абменныя інфармацыйныя працэсы ўнутры арганізма, скажу: работа, ўзначальваемая У. М. Калюновым разам з акадэмікам І. А. Булыгіным (настаўнікам Калюнова), была важкім укладам у фізіялагічную навуку. Цыкл даследаванняў, праведзены навукоўцамі, унёс яснасць у прыроду ўзнікнення стойкіх болевых сіндромаў пры некаторых нервовых захворваннях.**

**Параўнальна хутка прасунутым у практыку (вядома, пасля праверкі, аднак зацікаўленай, інтэнсіўнай, без бюракратычнай цяганіны) — мог бы быць эфект навуковых распрацовак Інстытута фізіялогіі.**

**Прафесар Калюноў расказаў пра вельмі перспектыўную галіну фізіялогіі, якая яго захапіла**

## НАШЫ ВІНШАВАННІ

**Адсюль засталося не больш, што называецца, двух крокаў да выхаду ў практычную медыцыну. З'явілася працэдура іонафарэзу гангліяблакатараў як метад лячэння «букету» пэўных хвароб. А працу навукоўцаў-фізіёлагаў увянчаў медаль ВДНГ СССР.**

**Адна з праяў нашай абывацельскай свядомасці заключаецца ў тым, што каштоўнасць навукі мы шукаем ў яе тутжахвіліннай выгадзе. Хаця многія з нас разумеюць: не, гэта не так. Практычныя вынікі фундаментальных навук даюць пра сябе знаць часцяком праз гады, дзесяцігоддзі. І ўсё ж прыемна ўсведамляць, што, аказваецца, плён нядаўняй вынаходкі ці адкрыцця ты адчуваеш ужо на сваёй, груба кажучы, скуры. Мяркую, што падобным — паводле сваёй тэарэтычнай і практычнай грандыёзнасцю. Гэта праблема ФРН — фактару росту нервовай тканкі. Параўнальна не вельмі даўно адкрыты, гэты фактар належыць да новага класу біярэгулятараў, якія маюць бялковую прыроду і ўтвараюцца ў арганізме жывёлы і чалавека, побач з іншымі рэгулятарамі — гармонамі і медыятарамі. Аднак дыяпазон дзеяння ФРН несупастаўна шырэйшы. Гэты біярэгулятар бярэ ўдзел ва ўсіх функцыях арганізма: памяці, здольнасці да навучання, фарміраванні матывацыйных паводзін і г. д. Пад яго кіраваннем многія віды клетак. Ён кантралюе іх рост, дыферэнцыроўку, натуральнае выжыванне, сакрэцыю, скарачэнне мышцаў — фундаментальныя працэсы ў арганізме, павышае яго, арганізма, устойлівасць да знешніх уздзеянняў. Уяўляеце сабе магчымасці, якія дало б медыцыне глыбокае веданне механізмаў дзеяння ФРН?**

**Дык у чым жа справа?**

**Адказ просты да трывіяльнасці: у недахопе сродкаў на даследаванні. Бо для гэтага патрэбны сучасныя апаратура, прэпараты, патрэбны кваліфікаваныя спецыялісты... Не даводзіцца казаць, што навукоўцы церпяць ад дэфіцыту інфармацыі: няма валюты для набыцця неабходнай навуковай літаратуры; фундаментальная бібліятэка АНБ, лічыце, не папаўняецца, пра тое нядаўна гаварыў са старонак нашай газеты начальнік аддзела міжнародных сувязей Акадэміі навук. Пра жывыя ж кантакты з замежжам і гаворкі няма.**

**— Жывое цела навукі разарвана,— вобразна вызначыў Уладзімір Мікалаевіч.— У такіх умовах на поспех, нават на нейкі вынік, надзеі няма. А трэба ж мець на ўвазе, што ў навуцы і пры ідэальных умовах хуткія вынікі здараюцца рэдка.**

**Тым не менш, загадчык лабараторыі рэгулятарных бялкоў і пептыдаў Калюноў не складае рук. Праведзеныя пад кіраўніцтвам прафесара шматпланавыя даследаванні дазволілі выявіць шэраг заканамернасцей станаўлення вегетатыўнай нервовай сістэмы і ўплыў ФРН на**

# Кнігі і боты стаяць... па суседству



Яшчэ на пачатку 90-х гадоў магазін «Акадэмкніга» прываблівала да сябе многіх вучоных, проста кнігалюбаў сваім шырокім кніжным асартыментам. Выбар навуковай, навукова-папулярнай і вучэбнай літаратуры ў ім быў багацейшы, чым у іншых кнігарнях горада.

Аднак ужо ў канцы 1991 года сітуацыя пачала мяняцца, прычым не ў лепшы бок: рэзка паменшыўся асартымент літаратуры, кнігі з краін СНД і Прыбалтыкі амаль перасталі паступаць, магазін паўстаў перад праблемай выжывання ў новых эканамічных умовах...

— Да 1991 года наша кнігарня,— гаворыць дырэктар «Акадэмкнігі» Іван Дзмітрыевіч Сухан,— была адзінай у рэспубліцы, якая распаўсюджвала навуковую літаратуру ўсіх акадэмічных выдавецтваў былога Савецкага Саюза. Пасля распаду СССР мы аказаліся ў ізаляцыі: пастаўкі з блізкага замежжа фактычна спыніліся — у нас не было і зараз няма грошай (у першую чаргу расійскіх), каб аплаціць іх кошт. Да таго ж зменшыла аб'ём выдаваемай літаратуры «Навука і тэхніка». Гэта з аднаго боку. З другога, стаўшы з 1 лютага 1992 года арэндным прадпрыемствам (патрэба часу), мы павінны былі зарабляць столькі грошай, каб іх хапіла і на арэндную плату, і на налогі, і на камунальныя паслугі, і на ахову, і на зарплату работнікам, і... Адразу стала ясна: гандлюючы толькі навуковай літаратурай, мы хутка абанкруцімся...

І каб гэтага не здарылася, навуковая кнігарня пачала зарабляць грошы. Спачатку пустуючыя паліцы «Акадэмкнігі» запоўніла камерцыйная літаратура, якая і каштуе даражэй, і распрадаецца лепш за навуковую. Знайшлося месца кнігам і часопісам па прадпрымальніцтву і праграміраванню. Але жадаемых вынікаў гэтыя меры не прынеслі: усё роўна заараблялі менш, чым трэба было плаціць. Купілі патэнт на права гандлю таварамі народнага спажывання. І зараз адзін з аддзелаў «Акадэмкнігі» прадае курткі, штаны, іншыя рэчы. Якніяк, а канцы з канцамі «Акадэмкніга» пакуль зводзіць. Чаму пакуль? Бо, невядома, што будзе заўтра. Новая арэндная плата





(звыш 10 тысяч рублёў у месяц за 1 квадратны метр), уведзеная з 1 студзеня, прымусіла дырэктара магазіна шукаць дадатковыя крыніцы грашовых паступленняў. А налогі? Прыгадаю: на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета, калі разглядаліся папраўкі ў налогавае заканадаўства, дэпутаты адмовілі кнігарням у памяншэнні налогаў. Яшчэ заявілі: абанкруціцеся вы, знойдуцца іншыя гандляры кнігамі. Такім чынам, не толькі «Акадэмкніга», але і ўсе іншыя кнігарні рэспублікі павінны цяпер клапаціцца пра свой далейшы лёс. І дзяржава робіць усё магчымае, каб зрабіць яго як мага цяжэйшым...

Прагаварыўшы шмат пра складанае эканамічнае становішча магазіна, неяк пакінулі па-за ўвагай галоўную праблему — як захаваць «Акадэмкнізе» профіль навуковай кнігарні. Падрабязны адказ на гэта пытанне Іван Дзмітрыевіч не даў. Ён толькі зазначыў: перш-наперш трэба аднавіць пастаўкі навуковай літаратуры з-за межаў Беларусі, што будзе магчымым пасля аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі. Расія ўжо зараз гатова пастаўляць Беларусі свае акадэмічныя выданні. Калі ж наша рэспубліка і надалей застанецца ў кніжнай блакадзе, то ў хуткім часе слова «акадэм» знікне з назвы магазіна — некалькі дзесяткаў навуковых беларускіх кніг не дазволяць захаваць сённяшні профіль «Акадэмкнігі».

НА ЗДЫМКАХ: сёння ў «Акадэмкнігу» прыходзяць не толькі за кнігамі.

Фота М. БУДЧАНІНА.

# Кожнаму аўтару — па спонсару

1994 год для выдавецтва «Навука і тэхніка» адметны хаця б тым, што дзяржаўны заказ наказаў доўга жыць. Праўда, месца яго адразу ж заняў «План паставак для дзяржаўных патрэб». Што гэта? Простая змена назвы ці нешта іншае — пакажа час.

Само ж выдавецтва запланавала выпусціць у бягучым годзе 116 кніг. І хоць няма зараз упэўненасці, што ўсе яны ўбачаць свет, аднак хочацца верыць у лепшае. Тым больш, што многія з іх зацікавяць самае шырокае кола чытачоў. Назаву толькі некаторыя: «400-годдзе беларускага друку» (факсімільнае выданне). Я. Мацвіішын «Гісторыя механікі ў Беларусі», Л. Аляксееў «Археология и краеведение Беларуси», трохтомнае выданне «Беларусы» (усё пра жыццё беларусаў), У. Бастанаў «300 практычных парад», руска-беларускі фізічны слоўнік. Гэта, што тычыцца новых выданняў. У 1994 годзе выйдуць таксама (ва ўсякім разе павінны) чарговыя тамы наступных кніг: «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 6), «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (вып. 14), трэці том твораў М. Багдановіча, І. Анічэнка «Слоўнік мовы Скарыны» (т. 3). Чакаецца выхад новых кніг з серыі «Нашы славутыя землякі». Сярод іх: Г. Сагановіч «Войска Вялікага княства Літоўскага», Я. Юхо «Нарадзіўся я ліцьвінам», С. Тарасаў «Меч і слава Панямоння».

Не забыла выдавецтва «Навука і тэхніка» і пра галоўную падзею года — 50-годдзе вызвалення краіны ад нямецкіх захопнікаў. Ёй прысвечаны некалькі кніг (М. Тарасенка «Железные солдаты. Очерки о фронтовиках», П. Васючэнка «Пошукі страчанага дзяцінства», М. Жыгоцкі «У цяжкі час вайны суровай...»).

...Планы планамі, задумы задумамі, аднак час цяпер такі, што ў любы момант яны могуць змяніцца ў бок скарачэння. У выдавецтве мне паведамілі, што любая з вышэйназваных кніг можа і не выйсці. Калі, напрыклад, аўтар альбо калектыў, які ён прадстаўляе, будзе не ў стане заплаціць грошы, неабходныя для выдання кнігі. Сярэдняя па памерах кніга, прыкладна ў 200 старонак, на пачатку лютага каштавала звыш 10 мільёнаў рублёў. Праўда, запэўнілі мяне, аўтары ведаюць пра гэта і абяцаюць аплаціць усе патрэбныя выдаткі. А выдавецтва ўжо не падвядзе.

Алесь ЮРЫН.

падтрыманне ўстойлівасці нервовых клетак да пашкоджваючых уздзеянняў, ацаніць яго ўдзел у рэгенерацыі нервовых валокнаў, што стала асновай канцэпцыі поліфункцыянальнага прызначэння ФРН у арганізме.

— Адсячы хворы орган ад цела — гэта адсячы боль, які руйнуе чалавека,— зазначыў Калюноў.— Але прырода стварыла чалавека рацыянальна, без залішніх дэталей. І кожная з іх выконвае нейкую патрэбную функцыю. Мы далёкія яшчэ ад дасканалага ведання гэтых функцый. Наша, фізіёлагаў, праца якраз і заклікана перманентна запаўняць прабелы, узбагачаць медыцынскую практыку новымі ведамі, якія дапамогуць захаваць цэласнасць жывога арганізма.

Пастаянная цяга глыбей спазнаць прадмет сваіх інтарэсаў усё жыццё вядзе Калюнова за сабой. Спазнаць і перадаць. Лекцыі для студэнтаў. Навуковыя працы. 173 публікацыі! У іх ліку 5 манаграфій, артыкулы ў замежных выданнях. Членства ў многіх грамадска-навуковых структурах, абмен вопытам арганізацыі навуковай дзейнасці і г. д.

І ўсё ж перш за ўсё — навука. Яна галоўнае ў яго жыцці.

Поспехаў і здароўя вам, Уладзімір Мікалаевіч. І з сённяшнім днём нараджэння. З 60-годдзем!

Р. ЛЕВІН.

# КАЛІ Ў НАРОДА НЯМА ПАМЯЦІ, У ЯГО НЯМА І ГІСТОРЫІ

Крэмль — старажытная ўмацаваная частка гарадоў Старажытнай Русі, а ў межах сучаснай Беларусі — Полацкага і Тураўскага княстваў. Такое вялікіх памераў збудаванне захавалася ў культурным слоі на адпаведнай глыбіні і ў сучасным Мінску (старажытным Менеску).

Кожны з гарадоў мае сваю гістарычную і трагічную гісторыю. І Менеск не аказаўся выключэннем. У выніку княжаскіх міжусобіц сярод уладароў Полацкага і Кіеўскага княстваў Менеск у пачатку сакавіка 1067 года быў знішчаны. Полацкае воінства пацярпела паражэнне на берагах Нямігі. Гэтыя падзеі і знайшлі сваё адлюстраванне ў «Слове аб палку Ігаравым». Праз 17 гадоў Менеск быў паўторна разбураны. Пасля гэтых падзей Полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч і яго сын Глеб адбудавалі Менеск у другім месцы: на востраве, у дэльце Нямігі, пры ўпадзенні апошняй у Свіслач, у адрозненне ад першапачатковага, які быў размешчаны на адносна высокім беразе, 20—30 метраў над узроўнем ракі. Новы крэмль узводзіўся на тэрыторыі памерамі прыкладна 350—300 м×250—200 м. Новы горад меў тую стратэгічную перавагу, што з усіх бакоў быў акружаны вадою і забалочанымі поймамі. Ёсць падставы лічыць, што будаўніцтва пачалося тут у 1084 годзе Глебам Усеслававічам, які пасля смерці свайго бацькі ў 1101 годзе атрымаў ва ўладанне Менескае княства. Горад будаваўся не на ізаляванай тэрыторыі, а ў акружэнні вясковых паселішчаў, каля якіх узнікалі курганныя некропалі. На пачатку XX стагоддзя ў адміністрацыйных межах цяперашняга горада меўся 91 такі старажытны магільнік, а ў межах Мінскага раёна яшчэ 120. Рэшткі старажытнага паселішча знойдзены і на востраве: тут выяўлены абломкі ляпнога посуду другой паловы І тысячагоддзя нашай эры. Можна меркаваць, што абшчынныя старажытных паселішчаў выконвалі «замкавую павіннасць» пры ўзвядзенні Мінскага крамля, які, дарэчы, быў пабудаваны без адзінага цвіка. Рэшткі яго захаваліся пад слоем зямлі вялікай таўшчыні.

НАША ДАЎНІНА

Некалькі дзесяцігоддзяў назад на тэрыторыі крамля быў узведзены будынак спорту «Працоўных рэзерваў», некалькі гмахаў уздоўж праспекта Машэрава і воддаль ад яго. Праспект раздзяляе помнік прыкладна на дзве роўныя часткі і пад ім захаваліся нямнім пашкоджаныя часткі старажытнага Менеска. Вялікая таўшчыня верхняй часткі культурнага слоя горада XVI — XIX стагоддзяў была ў значнай частцы знесена пры земляных работах. У розныя пасляваенныя гады археалагічныя доследы на Замчышчы праводзілі В. Р. Тарасенка, Э. М. Загарульскі, Г. Б. Штыхаў, аўтар гэтых радкоў і многія іншыя археолагі. Было даследавана да 5—6 працэнтаў тэрыторыі Замчышча. Не менш 50—60 працэнтаў яго паверхні могуць археалагічнымі метадамі вывучацца і далей.

Узімку з 1982 па 1983 год аўтар гэтых радкоў і Б. Ф. Лысенка, Т. М. Карабушкіна, М. А. Ткачоў і многія іншыя ўдзельнічалі ў археалагічных работах пад зямлёй пры пракладцы тунэля для ліўневай вады, які сваёй верхняй часткай закранаў ніжні слой драўляных пабудоў і культурны пласт крамля. Праходчыкі тунэля выконвалі свае работы толькі пасля таго, як пэўны ўчастк вывучалі археолагі. Была атрымана важная навуковая інфармацыя.

Але самыя вялікія вынікі ў межах крамля былі атрыманы ў 1984—1985 гадах, перад пачаткам будаўніцтва станцыі метро «Няміга». Была ўскрыта плошча 50×22 м на месцы драўляназемлянога крамля. Раскоп даў магчымасць адказаць на некаторыя пытанні сістэмы ўмацавання крамля. Так, па краю вострава, пад магутнай сістэмай умацавання спачатку быў зроблены надзейны каменна-гравійны падмурак, які меў таўшчыню да 4 метраў. У ніжнай частцы былі падкладзены вялікія камені, а паміж імі (без раствору) — малыя. Таўшчыня кладкі — 1—2 метры, шырыня

(Заканчэнне на 4-й стар.).

